

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг. Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 41 (323) — Нядзеля, 7 кастрычніка 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10

# Катастрафальнае жніво ў Савецкім Саюзе

У мінулыя гады ў Савецкім Саюзе падчас жніва страты ўраджаю дасягалі нязвычайных разьмераў. Звычайна лічылася нармальным падчас жніва не далічыцца трох цэнтнараў збожжа на адзін гэктар. Асабліва вялікая колькасьць збожжа марнавалася, калі яно перастойвала й перасьпявала. Вось-жа з гэтай прычыны камуністычная партыя й савецкі ўрад шмат часу перад жнівом пачалі рыхтавацца да ўборкі ўраджаю. Каб збожжа ня перасьпявала, быў знойдзены новы спосаб уборкі ўраджаю — разьдзельны. Паводля гэтага спосабу, збожжа спачатку скошвалася, будучы яшчэ недасьпелым, а пасьля таго, калі яно ў валкох дасьпявала, што звычайна трывала ад 7 да 10 дзён, яго малацілі камбайнамі. Аднак, як можна судзіць з савецкай прэсы, і гэта мала дапамагала.

Апошнімі часамі савецкая прэса зьмяшчае трывожныя паведамленьні аб ходзе жніўнай кампаніі й лёсе ўраджаю бягучага году. Жніво збожжа моцна зацягнулася й прадаўжаецца ўжо два зь лішнім месяцы. Шмат збожжа стаіць яшчэ на пні, а пагода ня спрыяе для жніва, — падаюць дажджы, пачаліся замаразкі, выпаў першы сьнег ў Сібіры. «Праўда» за 22. IX. 1956 г. пад загалоўкам «Усе сілы на пасьпяховае заканчэньне жніва» паведамляла, што ў усходніх раёнах Алтаю асталося скасіць яшчэ болей чымся паўмільёна гэктараў збожжа; у Казахстане жніво таксама не закончанае. Шмат зжатага збожжа ляжыць у валкох і ў іншых раёнах краіны. Трэба адцеміць, што гэты год вызначаецца вялікім ураджаем; аднак усё сьветчыць аб вялізарных яго стратах.

Вялікую трывогу выклікае й жніво на Беларусі. Паводля паведамленьняў, на 15 верасьня асталося на полі ня зжатым 20% збожжа. Асабліва дрэнна праходзіць жніво на Віцебшчыне, дзе на полі стаіць нязжатым 35% збожжа. Скошанае збожжа таксама яшчэ ня можна назваць сабраным, бо шмат яго ляжыць на полі. Яшчэ горшае палажэньне з малацьбою. Па ўсей рэспубліцы з агульнай колькасьці скошанага й зжатага збожжа толькі 60% абмалочана. Горш за ўсё праходзіць малацьба ў Горадзенскай і Маладэчынскай акругах. Там на полі ляжыць яшчэ зжатага, але не абмалочанага 60% збожжа.

А між тым ужо захаладала. 20 верасьня на Віцебшчыне тэмпэратура была толькі 9 градусаў цяпла й амаль што дня ішлі дажджы.

Збожжавы крызіс на працягу цэлага пэрыяду існаваньня камуністычнага рэжыму быў сталым і неадступным спадарожнікам савецкае сыстэмы. Шляхам правядзеньня розных экспэрымэнтаў і мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы, якія ў бальшыні выпадкаў заканчваліся правалам, ЦК КПСС імкнуўся хоць-бы ў якой-небудзь меры зьменшыць разрыў між запатрабаваньнем дзяржавы на хлеб і ягонай вытворчасьцю.

Адным із асноўных мерапрыемстваў ЦК КПСС апошняга часу было асваеньне цальнягоў (цалінных земляў) і аблогавых земляў. Павялічыўшы пасяўную плошчу пад збожжа з 112,1 мільёнаў гэктараў у 1954 годзе да 138 мільёнаў гэктараў у 1956 годзе, ЦК КПСС спадзяваўся зьмякчыць збожжавы крызіс. Аднак, савецкае кіраўніцтва напаткалася ў больш войстрай форме, чымся ў папярэднія гады, з наступнымі цяжкасьцямі пры ўборцы:

1) Фактычная нястача работніцкіх рук, як вынік нізкаякаснай працы з прычыны незацікаўленьня сялян у разьвіцьці калгаснае гаспадаркі. «Советская Белоруссия» за 7. VIII. 1956 г. пісала: «Як правіла, калгасьнікі . . . выходзяць на працу а 10—11 гадзіне, доўга абедаюць і рана вяртаюцца з поля. Траціна працаздольных жанчын ня прыймае ўдзелу ў калгаснай працы». Тое самае паведамляла й «Правда» за 17. VIII. 1956 г.

2) Няправільная арганізацыя працы, няўмелая расстаноўка тэхнікі і дрэннае яе выкарыстаньне, недарэчнае плянаваньне.

3) Вялікія прастоі камбайнаў із-за недасканаласьці канструкцыі, псаваньня, тэхнічных няспраўнасьцяў, дрэннага тэхнічнага абслугоўваньня і нястачы транспартных сяродкаў для перавозкі зерня.

4) Вялікія страты зерня пры перавозцы, якія дасягаюць казачных разьмераў, што аб'ясьняецца нічым іншым, як супрацівам селяніна мерапрыемствам ЦК КПСС. З гэтае прычыны савецкая прэса біла трывогу: «Вялікая колькасьць хлеба трацiцца пры перавозках. На дарогах нязьлічоныя калдобіны й барозны, засыпаныя пшаніцай. Вецер зьмятае

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Адкрыцьцё 8-е Сэсіі Рады БНР

**Восьмая Сэсія Рады Беларускае Народнае Рэспублікі была ўрачыста адкрытая 23 верасьня сёлета ў Нью Ёрку.**

**Згодна зь беларускім звычаем, адкрыцьцё Сэсіі было папярэджанае адслужэньнем Сьвятое Літургіі й Малебену за Беларускі Народ, якія былі адпраўленыя Яго Высокапраасьвяшчэнствам Архіяпіскапам Васілём і саборным духавенствам БАПЦ у царкве сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку.**

**На ўрачыстую Багаслужбу прыбылі старшыня Рады БНР інж. М. Абрамчык, прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў Нью Ёрку й ваколіцаў, радныя, ды прадстаўнікі грамадзтва.**

**Пасьля обеду адбылося першае адкрытае паседжаньне Рады БНР з удзелам грамадзтва. Заля была перапоўненая.**

**Старшыня Сэктару Рады БНР у ЗША сп. К. Мерляк прывітаў Старшыню Рады БНР. Ён адзначыў, што адкрытае паседжаньне зроблена з мэтай ушанаваньня дзесяцігодзьдзя аднаўленьня легальнае дзейнасьці Рады за межамі Беларусі. Ён перадаў голас Сп. Прэзыдэнту, які зрабіў кароткі агляд усіх падзеяў у жыцьці гэтага дзяржаўнага воргану, асабліва затрымоўваючыся над працай апошніх двух гадоў. Ён закрануў наступныя справы: арганізацыя й разьвіцьцё дзейнасьці Рады БНР; навязаньне кантактаў з прадстаўнікамі паняволеных народаў і з палітычнымі дзейнікамі заходняга сьвету; дачыненьні й ўмовы з нашымі суседзямі; дачыненьні з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму; дзейнасьць Парыскага Блёку й ягонае значэньне; Беларуская сэкцыя радыя Вызваленьня; Беларуская рэдакцыя Інстытуту Вывучэньня СССР; вонкавая дапамога беларускаму вызвольнаму руху, а таксама справа г. зв. апазыцыі да Рады БНР.**

**Пасьля дакладу сп. Прэзыдэнт даваў падрабязныя адказы на стаўленыя пытаньні.**

**Закрываючы паседжаньне, старшыня Сэктару Рады БНР у ЗША падзякаваў сп. Прэзыдэнту за ягоны даклад ды ўсім прысутным за шматколькасны ўдзел.**

# Савецкія дасягненьні ў сьвятле лікаў

Савецкая прапаганда ўвесь час намагаецца пераканаць як падсавецкіх грамадзян, так і цэлы сьвет, што савецкая гаспадарская сыстэма найбольш перадавая ў сьвеце. Падаючы розныя, на першы пагляд вельмі імпазантныя лікі разьвіцьця савецкае прамысловасьці, Хрушчоў самахвальна заявіў на 20-м партыйным зьезьдзе: «Будзем канкураваць з Амэрыкай».

Але ў запраўднасьці рэчаістнасьць выглядае зусім інакш. Нядаўна Польшча выпусьціла свой статыстычны зборнік, у якім можна знайсьці вельмі цікавыя параўнаньні пра дасягненьні Савецкага Саюзу, Польшчы ды Чэхаславаччыны. Паводля дадзеных гэтага зборніка, сярэдняя вытворчасьць цукру на галаву насельніцтва была ў 1955 годзе ў Чэхаславаччыне 52,7 кіляграма, у Польшчы — 39 кілямграмаў, а ў Саветах — толькі 17 кілямграмаў. Ваўняных матар'ялаў таго-ж самага году прадукавалася на галаву насельніцтва ў Чэхаславаччыне 4,1 мэтра, у Польшчы — 2,8 мэтра, а ў Саветах — толькі паўтара мэтра. Паперы прыпадала на адну асобу ў Чэхаславаччыне 27,8 кілямграмаў, у Польшчы — 14 кілямграмаў, у Саветах — краіне прапагадны — толькі 6,3 кілямграма. Ня лепш выглядаюць справы і ў галіне вытворчасьці цэмэнту, цэглы, самаходаў, радыётэхнічных і электрычных прыладаў, ды цэлага шэрагу іншых дзялянак прамысловасьці. Усюды ў гэтых дзялянках Савецкі Саюз знаходзіцца ззаду за Чэхаславаччынай і Польшчай; з другога боку, гэтыя абедзьве краіны стаяць далёка ззаду за заходнімі краінамі, ня кажучы ўжо пра ЗША.

Навет новы савецкі пяцігадовы плян ня надта зьменіць сытуацыю на карысьць Саветаў. Для прыкладу хопіць прыгадаць, што згодна з плянам, у 1960 годзе Савецкі Саюз будзе прадукаваць на галаву насельніцтва толькі 31,1 кілямграма цукру, 12,9 кілямграмаў паперы і 1,9 мэтра ваўняных матар'ялаў.

Усё гэта ясна паказвае, што Савецкаму Саюзу даводзіцца не даганяць Амэрыку, як-бы гэта хацелася Хрушчову, і навет не заходнія краіны, а сваіх сатэлітаў — Чэхаславаччыну й Польшчу. За выняткам некаторых дзялянак цяжкое прамысловасьці — асабліва ваеннае — Саветы астаюцца далёка ззаду за гэтымі сатэлітамі, калі браць пад увагу сярэднюю прадукцыю на галаву насельніцтва. Пры гэтым трэба адцеміць, што цьверджаньні савецкае прапаганды, быццамбы дасягненьні гэтых сатэлітаў — заслуга новых камуністычных парадкаў, зусім хвальшывыя. Новы лад пануе там ня цэлых 10 гадоў. Вось-жа іхны вытворчы патэнцыял не зьяўляецца ніяк заслугай камуністых. Наадварот: выяўляецца, што чым дадзеная краіна карацей знаходзіцца пад «дабрадзейным» уплывам камуністычных парадкаў, тым ейная гаспадарская сытуацыя лепшая. Савецкая сыстэма дала краіне за 40 гадоў прамысловасьць, але не патрапіла паставіць яе на ўзровень некаторых сатэлітных краінаў.

У сувязі з гэтым, сярэдні жыцьцёвы ўзровень чалавека ў Савецкім Саюзе шмат ніжэйшы, чымся ў сатэлітных краінах. Савецкая цяжкая прамысловасьць вырасла на галечы працоўных.

**О. С.**

# Праўды не схаваеш

У сваёй палітычнай рэзалюцыі камуністычная партыя Задзіночаных Штатаў урэшце адкрыта прызналася да ўсім відавочнага факту: ейныя шэрагі радзеюць з кажным годам.

Адразу пасьля вайны, на Захадзе няраз можна было сустрэць собсьніка некалькіх дамоў ці навет прадпрыемства, які называў сябе камуністым. Між імі былі й такія, што й фармальна належалі да камуністычнае партыі. Гэта быў пэрыяд, калі Захад, пад уражаньнем апошняй вайны, бачыў у Савецкім Саюзе саюзьніка. Камуністычная прапаганда спрытна выкарыстоўвала гэты мамэнт, вэрбуючы між наіўных штораз новых прыхільнікаў. Крэмль не шкадаваў грошай на гэтую прапаганду, хоць у сябе дома людзі жылі ў зямлянках ды жывіліся бярозавай карой. Пасьля вайны ў Эўропе было цяжка з паперай, і г. зв. «буржуазныя» газэты зьяўляліся напачатку раз у тыдзень. Толькі камуністычная прэса мела ўсе магчымасьці: у такой Бэльгіі, прыкладам, камуністычны ворган «Драпо Руж» («Чырвоны сьцяг») меў каля паўмільёна падпішчыкаў.

У Злучаных Штатах эмігранты, якія ўжо дзесяткамі год жылі ў Амэрыцы, таксама скамунізаваліся пад уплывам бальшавіцкай прапаганды. Але праўды не схаваеш: жывыя сьветкі бальшавіцкага тэрору й бяспраўя — пасьляваенныя эмігранты з Савецкага Саюзу — хутка разьвеялі бальшавіцкі міт аб «шчасьлівым» жыцьці савецкіх грамадзян. Шмат хто й з карэнных Амэрыканцаў пераканаўся ў няжыцьцёвасьці камуністычнае ідэялёгіі. Раскрыцьцё-ж злачынстваў савецкага рэжыму сталінскага пэрыяду выбіла грунт спад ног навет у самых закаранелых камуністых. Іхны лік у Заходняй Эўропе зьменшыўся бадай напалавіну. Той-жа працэс адбываецца і ў Амэрыцы.

У даўжэзнай рэзалюцыі амэрыканскай кампартыі — аж 23 тысячы слоў! — знаходзім цікавыя, нясустраканыя дасюль мясьціны. Напрыклад, у ёй мы чытаем: «Капіталізм у Задзіночаных Штатах, з прычыны сваіх своеасаблівых рысаў ды гістарычных умоваў свайго разьвіцьця, прынёс адносна высокі жыцьцёвы ўзровень вялікай колькасьці людзей».

Незалежна ад нацыянальнасьці, камуністыя ня могуць абыйсьціся бяз хлусьні. Амэрыканскія камуністыя ня выняткі. Будучы шчырымі, яны мусілі-б проста сказаць, што жыцьцёвы ўзровень у Амэрыцы — найвышэйшы ў сьвеце, у той час як у Савецкім Саюзе — «краіне пабудаванага сацыялізму» — ніжэйшы, чымся ў найбяднейшай капіталістычнай краіне. Вось які выпадак расказвае былы францускі міністар фінансаў і прафэсар унівэрсытэту Андрэ Філіп, які летась наведаў Савецкі Саюз у складзе дэлегацыі францускіх сацыялістых: «Калі я запрапанаваў наладзіць вымену савецкімі й францускімі працоўнымі, Хрушчоў мне адказаў: „Таварыш Філіп, вы хітры чалавек. Вы хочаце паставіць мяне ў нязручнае становішча. Вы-ж ведаеце вельмі добра, што жыцьцёвы ўзровень у вашай краіне недасяжна вышэйшы, чымся ў нас“».

Гэтак сказаў Хрушчоў выдатнаму францускаму сацыялістаму. Падсавецкім працоўным гэтага ён ня скажа. Ім, як на зьдзек, ён сьпявае старыя абабітыя песьні аб эксплёатацыі працоўных на Захадзе ды аб «шчасьлівым» жыцьці ў Савецкім Саюзе.

Але, як мы ўжо казалі, праўды не схаваеш. Хрушчову ніхто ня верыць. Адчыняюцца вочы й тых нешматлікіх наіўных на Захадзе, што ўсё яшчэ падтрымоўваюць камуністых.

**У. С.**

# Яшчэ адзін паказьнік русыфікацыі

Якую галіну жыцьця ў БССР мы ня возьмем, усюды знойдзем паказьнікі інтэнсыўнай русыфікацыйнай акцыі. У вадным з папярэдніх нумароў «Б-ны» гаварылася, якую вялізарную ролю ў гэтай акцыі можа адыгрываць друк. Цапер-жа у БССР, мала таго, што друкаванае слова даходзіць да чытача ў форме беларуска-расейскага жаргону, але ў дадатак навет гэты жаргон выціскаецца ўжо чыстай «обшчапанятнай» мовай што-раз больш.

Ня будзем галаслоўнымі ды зьвернемся да лікаў, якімі характарызуецца дзейнасьць Дзяржаўнага Выдавецтва БССР у цягу апошніх васьмі месяцаў гг. (студзень-жнівень). За гэты час Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выдала 122 кніжкі агульным тыражом два мільёны 689 тысяч экзэмпляраў. З гэтага ліку на беларускай мове выдадзена 73 кніжкі з тыражом 691 тысяча і 49 кніжак у расейскай мове з амаль двухмільённым тыражом; на пераклады твораў заходніх аўтараў выпадае 11 пазыцыяў — усе ў расейскай мове; на навуковую й тэхнічную літаратуру — 39 пазыцыяў, з чаго 27 у беларускай мове й 12 у расейскай; на прапаганду, марксізм, ленінізм — 8 пазыцыяў, усе ў беларускай мове. У ліку 73 кніжак у беларускай мове знаходзіцца 15 перакладаў з расейскае мовы.

Аб чым гавораць нам гэтыя лікі?

1) Супаставіўшы тыражы кніжак выдадзеных у расейскай і беларускай мовах, мы адразу бачым, што на кніжны рынак БССР на кажны экзэмпляр у мове беларускай, пайшло аж тры экзэмпляры ў мове расейскай. Пры гэтым нельга забывацца, што гэта выданьні толькі аднаго выдавецтва, а ў дадатак мы ня маем дадзеных, колькі кніжак у мове расейскай увозіцца ў БССР.

2) Беларус ня мае магчымасьці чытаць заходняга аўтара ў сваёй роднай мове. Каб пазнаёміцца з заходняй літаратурай, наш суродзіч мусіць карыстацца толькі мовай расейскай (між іншага з замежных аўтараў тут фігуруюць Рамэн Ралян, Жуль Вэрн, Мэрымэ, Джэк Лёндон, Сэрвантэс, Марк Твэн, Жорж Санд, Вільям Тэкерэй, Ральф Джон).

3) Затое што да навуковае й тэхнічнае літаратуры, дык, на першы пагляд, можа здацца, што тут беларуская мова «удастоілася» не абы-якога гонару: на 39 пазыцыяў ёй належыцца 27. Але тут зусім што іншае. На навуковыя працы выпадае толькі пару пазыцыяў, а рэшта — гэта тэхнічная літаратура калгаснага ўзроўню, з асноўнай тэматыкай: як павысіць ураджай тае ці іншае культуры, як даглядаць кукурузу, як змагацца за «высокія паказьнікі вытворчасьці і г. д. Бязумоўна, тут ужо, у дачыненьні да калгасьніка, можна пазволіць і на беларускую мову, тымбольш, што справа тычыцца «дасягненьняў сацыялістычнае вытворчасьці».

4) Для лепшага «ўспрыйманьня» «клясыкаў» марксізму-ленінізму выдавецтва палічыла, відаць, патрэбным выдаваць гэтую літаратуру ў мове беларускай. Зрэштай гэты «жанр» выдаецца ў расейскай мове такімі агромнымі тыражамі, што яго хапае на ўвесь Савецкі Саюз, а дзеля таго няма патрэбы дубляваць яго у БССР.

5) Як правіла, творы беларускіх аўтараў выдавецтва выдае куды меншымі тыражамі, чымся творы расейскіх аўтараў. Вось лікі: сярэдні тыраж кніжкі беларускага аўтара ў беларускай мове — 8 500; расейскага аўтара ў перакладзе на беларускую мову — 12 900; расейскага аўтара ў расейскай мове — 24 900. Магчыма хто-небудзь будзе апраўдваць гэтае зьявішча тым, што кніжкі ў расейскай мове могуць вывозіцца у РСФСР і таму іхны тыраж большы. Вось-жа так ня ёсьць, наадварот яны яшчэ ўвозяцца з РСФСР у БССР. І дзеля таго няма дзіва, што яны сталіся «ня ходкім» таварам, плесьняюць на магазынах, праводзяцца «ударным» парадкам кампаніі для распрадаваньня іх згодна лёзунгу «культуру ў масы», а мы дадамо — расейшчыну ў масы. Затое-ж колькі разоў даводзіцца чытаць у менскай прэсе скаргі, як вучняў, так і дарослых на тое, што некаторых кніжак беларускіх аўтараў і зь сьвечкай нельга знайсьці.

Тут пры нагодзе адцемім, што «Дзяржаўнае вучэбна-пэдагагічнае выдавецтва БССР» за гэты самы час, апрача падручнікаў, выдала 8 кніжак расейскіх аўтараў у расейскай мове (бэлетрыстыка) агульным тыражам 445 000 і толькі адну кніжку ў мове беларускай.

Вымова ўсіх прыведзеных тут лікаў — ясная. Выдавецкая дзейнасьць у БССР пераходзіць хуткімі тэмпамі на прынцып «расейскай па форме й сацыялістычнай па зьместу». Як-жа агіднай на гэтым фоне становіцца міхайлаўская хлусьня аб нябывалым росквіце беларускае нацыянальнае культуры!

**А. Г.**

# Яшчэ аб блесках і ценях Грамады

Артыкул С. Гаркуша «Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада» ў сувязі з 29-ай гадавінай ейнае ліквідацыі польскім урадам, які быў зьмешчаны ў № 4 «Бацькаўшчыны» за 22 студзеня 1956 г., распачаў дыскусію аб гэтай найбольшай у нашай гісторыі беларускай палітычнай арганізацыі. На гэтую тэму выказаўся два разы ўспомнены С. Гаркуш (у № 31 і 34 «Бацькаўшчыны»), два разы Я. Станкевіч (у № 31 і 34 «Бацькаўшчыны») і адзін раз А. Лаўрыновіч (у № 32 «Бацькаўшчыны»). Такую дыскусію, якая хіба, гэтым маім артыкулам не закончыцца й не павінна закончыцца, трэба ўважаць за зьявішча патрэбнае й карыснае. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, як найбольш масавая дагэтуль беларуская палітычная арганізацыя, што згуляла ў нашым нацыянальна-вызвольным руху Заходняе Беларусі выключна вялікую ролю, як дадатную, так і бясспрэчна адмоўную, заслугоўвае на тое, каб ёй і сяньня прысьвяцаць адпаведную ўвагу. Гэта тымбольш патрэбна яшчэ ў сувязі з тым, што сяньня жывуць навочныя сьведкі, а навет удзельнікі дзейнасьці Грамады, якія шмат чаго ў ёй могуць высьвятліць.

З выказваньняў і ўспамінаў трох успомненых аўтараў, што пісалі на бачынах «Бацькаўшчыны» аб Грамадзе, найбольш аднабока й няправільна насьвятліў ролю гэтае арганізацыі С. Гаркуш. Ён, як былы працаўнік Грамады, падыйшоў да праблемы суб'ектыўна і высунуў рад зусім наіўных аргумэнтаў у вабарону гэтае арганізацыі й ейных правадыроў. Больш ужо аб'ектыўна падыйшоў да пытаньня А. Лаўрыновіч, хаця не ўсьцярогся некалькіх істотных памылак, на якія й зьвярнуў увагу Я. Станкевіч. Гэты апошні прадставіў характар і ролю Грамады найбольш правільна, але й ён не ахапіў усіх аспэктаў ейнае дзейнасьці. Таму далейшая дыскусія над гэтым пытаньнем ёсьць канечна патрэбная.

для беларускай нацыянальнай дзейнасьці ў БССР, пэрыяд ейнага тэрытарыяльнага ўзбуйненьня, амаль поўнае культурнае незалежнасьці ад Масквы ды зь вялікімі пэрспэктывамі ўнезалежненьня эканамічнага й навет палітычнага. Паўтараны тады і Масквою лёзунг «Вялікадзяржаўны расейскі шавінізм — найвялікшая небясьпека на дадзеным этапе» ня быў адно пустым словам. Хаця беларускі нацыянальны актыў у БССР ня быў, як ведама, поўнасьцяй задаволены з заіснаваўшых магчымасьцяў нацыянальнай дзейнасьці, мусіў весьці цяжкае змаганьне за кажную нацыянальную пазыцыю і не давяраў усім запэўненьням маскоўскага цэнтру дык усё-ж ня меў й ня мог мець навет уяўленьня, што вельмі хутка, бо ўжо ў 1929-30 гг., распачнецца жудасная хваля нішчэньня ўсяго беларускага нацыянальнага жыцьця ў БССР і бязьлітасная ліквідацыя ўсяго нацыянальнага актыву.

З другога боку, палажэньне Беларусаў у тагачаснай Польшчы было бязвыхаднае. Гэта быў разгар дзікага польскага шавінізму ў нацыянальных дачыненьнях, а ў справах сацыяльных паварот да прыгоньніцкіх традыцыяў шляхотчыны. Польскія ўрады, якія часта тады мяняліся, як і польскае грамадзянства амаль што бяз выключэньня ставілі сабе за мэту хуткую паланізацыю Беларусаў і ліквідацыю іх нацыі.

Апынуўшыся ў такім палажэньні і ня маючы ніякага сур'ёзнага падтрыманьня сярод палітычных дзейнікаў Захаду, зусім незацікаўленых беларускай праблемай, **Беларусам Заходняе Беларусі аставалася адзіная дарога — арыентацыя на ўсход.** Але калі нейкі вызвольны рух арыентуецца на чужую сілу, ён нармальна намагаецца яе выкарыстаць з мэтамі нацыянальна-вызвольнага руху, або, у крайнім выпадку, ідзе з гэтаю сілаю на такі кампраміс, які ў дадзенай палітычнай каньюнктуры прыносіць болей карысьцяў, чымся стратаў.

І вось тут даходзім да кораня справы. Не за палітычную арыентацыю на ўсход мы сяньня павінны судзіць Грамаду і ейных праваднікоў, але за тое, ці і як яны намагаліся выкарыстаць гэтую сваю арыентацыю для беларускіх нацыянальна-вызвольных мэтаў і астацца ў сваей дзейнасьці незалежнымі ад дырэктываў, што ішлі зь Менску ці церазь Менск з Масквы.

Бальшавіцкая палітыка ў дачыненьні да Грамады ясная ня толькі сяньня з трыццацігадовай пэрспэктывы, але яна мусіла быць яснай, прынамся ў ладнай меры, і для тагачасных кіраўнікоў Грамады. Мэтай гэтай палітыкі бальшавікоў было **прыбраць беларускі нацыянальна-вызвольны рух заходняе Беларусі ў свае собскія рукі і ім дырыгаваць.** Бальшавікі ўжо тады былі перакананыя, што беспасярэдня ня могуць узяць пад свой уплыў беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі, прынамся ня могуць зрабіць гэтага ў шырокім маштабе і ў хуткім часе. Падчас першых выбараў у польскі сойм камуністыя ў Заходняй Беларусі не здабылі аніводнага мандату, тады калі Беларусы правялі аж чатырнаццаць сваіх дэпутатаў у польскі парлямант пры няспрыяльных выбарных абставінах. Вынікі гэтых выбараў бальшавіком паказалі, што да беларускага насельніцтва Заходняй Беларусі яны могуць ісьці толькі пры помачы самых Беларусаў і пры пасярэдніцтве кантраляваных імі беларускіх арганізацыяў. Тут ляжыць гэнэза й галоўная прычы-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

Ці інсьпіратарамі й ініцыятарамі заргаінізаваньня ў 1926 годзе Грамады былі беларускія дзеячы, што потым сталі на чале яе, ці бальшавікі, гэтага сяньня на эміграцыі ўстанавіць нельга. Аб гэтым хіба ведае адзін адзіны Р. Астроўскі, які таксама ачольваў гэтую арганізацыю і іграў у ёй у некаторых пытаньнях першую скрыпку, але й ён сяньня, пэўне-ж усіх сваіх картаў адкрыць не захоча. Пэўным, аднак, ёсьць тое, што Грамада паўстала й разьвівалася пад вялікім уплывам і пры выдатнай матарыяльнай дапамозе бальшавікоў. Сьцьвярджаючы гэта, мы далёкія ад таго, каб гэтую арыентацыю Грамады на камуністых ставіць ёй і ейным кіраўнікам у сьмяротную віну. Бадай ня было яшчэ вызвольных рухаў народаў, што знаходзіліся ў паняволеньні варожых ім дзяржаваў, якія-б не арыентаваліся на іншую дзяржаву ці дзяржавы, варожыя да першай, і не карысталіся іхнымі дапамогамі. А што ў дачыненьні Грамады такой дзяржавай быў Савецкі Саюз, варожы тагачаснай Польшчы, дык і ў гэтым няма нічога дзіўнага. Гэта быў перыяд найбольшага развою НЭП-у і найшырэйшых магчымасьцяў

# У паняволенай Беларусі

### СТАН ЖНІВА НА 10-га ВЕРАСЬНЯ

(«Зьвязда», 14. 9. 56)

«... У калгасах **Віцебскае** вобласьці яшчэ ня зжаты збожжавыя культуры з плошчы 140,7 тысяч гэктараў, ня выцераблены лён-даўгунец з плошчы 23,7 тысячы гэктараў... З сабраных 46 тысяч гэктараў лёну абмалочана толькі 8 тысяч... На 10 верасьня разаслана лёнасаломкі з плошчы 5,8 тысячы гэктараў, або 12,9% выцерабленага.

Калгасы вобласьці да 10 верасьня павінны былі закончыць сяўбу азімых. Між тым тут яшчэ недасеяна да пляну 57,5 тысячы гэктараў.

... У **Магілеўскай** вобласьці яшчэ ня зжата 150,9 тысячы гэктараў збожжа, ня выцераблены лён з 15,8 тысячы гэктараў, Дапушчанае немагчымае адставаньне з сяўбой азімых: плян выкананы толькі на 55,2%.

... У **Маладэчанскай** вобласьці да гэтага часу не засеяна 71 тысяча гэктараў азімых».

### ЗРЫВЫ З ВЫБІРАНЬНЕМ БУЛЬБЫ

(«Зьвязда», 13. 9. 56)

«У шмат якіх раёнах рэспублікі збор бульбы разгортваецца недапушчальна марудна. Паводля стану на 10 верасьня, калгасы Маладэчанскае і Віцебскае вобласьцяў гэтае работы па сутнасьці яшчэ не пачалі, а ў Берасьцейскай, Гомельскай і Менскай вобласьцях сабрана толькі па 2,3—2,5 працэнта пасяўных плошчаў. Гэткія нізкія тэмпы сьветчаць аб тым, што некаторыя кіраўнікі адкладваюць копку бульбы на позьнюю восень, што можа прывесьці да значных страт ураджаю, псаваньня насенных фондаў і зацягваньня тэрмінаў здачы бульбы дзяржаве».

### БЕЛАРУСКУЮ МОЛАДЗЬ НА ШАХТЫ ДАНБАСУ

(«Сов. Бел.», 15. 9. 56)

Чарговая тура камсамольцаў і моладзі Беларусі — 2.360 асоб — прыбыла на шахты Данбасу».

### КАМБАЙНЫ

(«Сов. Бел.», 12. 9. 56)

«**Упаўнаважаны райкому:** Чым займаюцца мэханізатары?

**Старшыня калгасу:** Учора зьбіралі жыта, а сяньня зьбіраюць дэталі камбайнаў».

### БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ ЛЕПШ

«З нагоды абвешчаньня Саветам Міністраў СССР аб павышэньні заработнай платы нізкааплатным работнікам і службоўцам, **вартаўніца** горпромкамбінату А. Янушкевіч напісала жырным шрыфтам у **«Чырвонай Зьмене»** з 11 верасьня 56 г. **«Буду працаваць лепш...».**

### МЕНСКАЕ РАДЫЁ СУПРАЦЬ БУРЖУАЗНАЕ ІДЭЯЛЁГІІ

Радыё-Менск перадало 29 верасьня доўгую гутарку на тэму «XX зьезд КПСС аб заданьнях ідэялягічнай работы».

У гэтай гутарцы радыё заклікала «неаслабна змагацца супраць праяўленьняў буржуазнае ідэялёгіі,... паўней і актыўней выкарыстоўваць усе сродкі ідэйнага выхаваньня: прапаганду... навуку (!), літаратуру й мастацтва».

Як вынікае з далейшага зьместу, асноўнае заданьне (асноўная цяжкасьць) рэжыму зводзіцца да «лішняга пуда збожжа». У гутарцы было сказана: «Наша галоўная палітыка цяпер павінна быць эканамічнае будаўніцтва дзяржавы, каб сабраць лішнія пуды хлеба, каб даць лішнія пуды вугалю, каб рашыць, як лепш выкарыстаць гэтыя пуды хлеба й вугалю. І на гэтым павінна быць пабудавана ўся агітацыя і ўся прапаганда».

Закрануўшы пасьля культ Сталіна, выказваньні якога ператвараліся «ў свайго роду тэарэтычныя іконы», ды скрытыкаваўшы дасюлешні «Кароткі курс гісторыі партыі», радыё-Менск яшчэ й яшчэ раз заклікала «рашуча змагацца супраць перажыткаў і праяўленьняў буржуазнае ідэялёгіі». Як вынікае з гутаркі, гэтыя перажыткі й праявы выплазяць зь няправільнага разуменьня тэорыі аб «суіснаваньні».

### У ГОМЕЛЬШЧЫНЕ 16 ТЫСЯЧ КАМСАМОЛЬЦАЎ МЕНШ

(«Чырвоная Зьмена», 16. 9. 56)

Абласная камсамольская арганізацыя за апошні год зьменшылася больш чым на 16 тысяч чалавек... Кажны месяц у вобласьці не здаюць справаздач адносна сяброўскіх складак больш за 20 працэнтаў камсамольскіх арганізацыяў. Гэтак, у Даманавіцкім, Нараўлянскім, Рэчыцкім, Сьвяцілавіцкім раёнах да 30% сяброў ВЛКСМ ня плацяць складак.

# Катастрафальнае жніво ў Савецкім Саюзе

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

зерне на бок у траву. Там паўсталі зь яго цэлыя залежы».

Міністар саўгасаў СССР Бэнэдыктаў абвесьціў насельніцтву, што «дазваляецца зьбіраць зерне на дарогах і каласы на палёх на палавіну або атрымліваць грашыма па 40 рублёў за цэнтнар. Але жадаючых займацца гэтай справай на палавіну не знайшлося. Тыя, што зьбіраюць зерне на дарогах, прысвойваюць яго поўнасьцю» (Известия», 6. IX. 1956).

Страты ў бягучым годзе зерня павялічваюцца яшчэ дзякуючы аднаму новаму экспэрымэнту ЦК КПСС — гэ. зв. разьдзельнай уборкай ураджаю. У процівагу ранейшым цьверджаньням, што «раздзельная уборка ураджаю простымі жняяркамі значна ўступае комбайнавай аднафазавай уборцы, пры якой страты зерня могуць быць зьведзены да мінімуму» («Энциклопедический словарь», Москва, 1953, бач. 606). Цяпер-ж даводзіцца, што толькі разьдзельная уборка ураджаю забясьпечвае высокую прадуктыўнасьць агрэгатаў, высокую якасьць зерня, жніва й уборку й вызначаныя тэрміны, павышэньне валавых збораў на 20% і г. д.

Ня маючы дастатковай колькасьці машынаў для жніва, бо прамысловасьць прадукуе іх у вабмежаванай колькасьці і то для коннай цягі, савецкае кіраўніцтва ўсё-ж такі вымагае праведзеньня уборкі толькі разьдзельным спосабам. Дайшло навет да таго, што збожжа скошваецца ўручную, камбайны перастаўляюцца для скашваньня без абмалоту, жанчыны калгасьніцы жнуць збожжа сярпамі.

Партыйныя кіраўніцтва можа пісаць рапарты аб выкананьні загадаў партыі аб разьдзельнай уборцы, зводкі ходу ўборачнай кампаніі паказваюць пасьпяховасьць, а збожжа ляжыць на палёх у валкох пад даждажом і гніе. Відаць, савецкае кіраўніцтва сур'ёзна пастанавіла адмовіцца ад камбайнавай уборкі і выкарыстоўвае іх цяпер толькі для абмалоту валкоў. Ужо цяпер ставіцца пытаньне аб пераглядзе сыстэмы ўборачных машын і прадукаваньні такіх тыпаў, якія патрэбныя для разьдзельнай уборкі.

Камбайнавая аднафазавая (калі адначасна камбайн жне і малоціць) уборка, аб якой гэтак крычала камуністычная прапаганда, у ўмовах савецкай сыстэмы вядзеньня гаспадаркі ня прывілася. Наяўны парк 350 тысяч камбайнаў недасканалай канструкцыі не забясьпечвае сваечасовай уборкі ў вызначаныя тэрміны. Даць-жа сельскай гаспадарцы патрэбную колькасьць камбайнаў (каля паўтара мільёна дасканалай канструкцыі) савецкая прамысловасьць ня ў сілах.

У шуканьні шляхоў разьвязаньня збожжавай праблемы, ЦК КПСС кідаецца ад крайнасьці да крайнасьці. Але, відаць, палажэньне ў краіне не направіць паварот ад камбайну да простай жняяркі, касы й сярпа. Патрэбная карэнная зьмена ўсяе сыстэмы вядзеньня сельскай гаспадаркі — паварот да прыватнай ініцыятывы і індывідуальнай гаспадаркі.

В. Б.

15

# На нівах і ўзвышшах беларускага слова

### КРАСАПІСЬМЕНСТВА Ў «НАШАЙ ДОЛІ»

Гэтак, апрача чыста газэтнага й публіцыстычнага матар'ялу, «Наша Доля» дала на сваіх балонах пачэснае месца й мастацкай літаратуры — красапісьменству. Ужо першы нумар яе адчыняецца Пашкевічанчыным вершам «Наш палетак», як паэтычнай перадавіцай, што папярэджвае чыста газэтную публіцыстычную перадавіцу — зварот «Да чытачоў», наступны зараз-жа за гэным вершам, які гэтак адчыняе фактычна ўсю газэту. Адылі, што асабліва трэба адзначыць — «Наша Доля» ўпяршыню ў XX в. (дый бадай ува ўсім новым часе аж ад XIX в. пачынаючы) нясе на сваіх балонах і беларускую **мастацкую прозу**, першыя ўзоры якое даюць тут Пашкевічанка й Міцкевіч-Колас, а не адны толькі вершы, як датуль.

У першых чатырох нумарох «Нашае Долі», якія зручней умоўна зваць «луцкевічаўскімі», з творамі красапісьменства выступілі Пашкевічанка, Якуб Колас, Дзядзька Пранук (Умястоўскі) ды крыптонім З. К., у вапошніх двух — умоўна «гедвілаўскіх» — псэўдонімы І. Ізгур, Будзіцель, Гэля Нядольны.

### Пашкевічанка — Цётка

Абцяжаная, як відаць, працаю ў самым газэтным запаўненьні й рэдагаваньні «Нашае Долі», Пашкевічанка зьмясьціла ў ёй толькі кагадзе ўспомнены верш-перадавіцу «Наш палетак» ды празаічную навэльку «Прысяга над крывавымі разорамі» (абодвы ў № 1 пад мужчынскім ізноў псэўдонімам «Мацей Крапіўка», часта ўжываным і пасьлей). Адылі, у гэтым самым часе выйшла з друку ейнае «Першае чытаньне для дзетак беларусоў», упяршыню падпісанае мянушкаю «Цётка» (выданае першым нашым выдавецтвам — супалкаю «Загляне сонца і ў наша ваконца», паўсталаю ў тым-жа 1906 г. у Пецярбургу; абвестка аб выхадзе з друку дадзеная ў № 2 «Нашае Долі»). Зьмешчаныя тут Цётчыны вершы часам напісаньня, а часткова й характарам, зусім прылягаюць да зьмешчаных у «Нашай Долі» (асабліва верш «Роднай вёсцы»),

### НАШ ПАЛЕТАК

Наш палетак паміж межаў,
З-за каторых цьвіце збожжа;
А наш скравак штось залежаў;
Наш загон зыйсьці ня можа.
Ці то глеба данічога?
Ці то рукі ў нас слабыя,
Што ня майма й зерня свога,
Што мы ходзім, як сьляпыя?
Глеба чорна, ў руках сіла,
Толькі нашых гаратаяў
Некасьць мара ўсё звадзіла
Гэн замежы, да выраяў...
Наш сявец нязраз там кідаў
Залатое зерне з жмені,
Ён нязраз там плёны выдаў.
А у нас расьлі камені.
Наш палетак негараты,
Палынамі цьвіце ніва.
Ну-ткі, браткі, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто гараці добра зможа,
Хто разоры скора ладзіць,
Хто шчасьліва сее збожжа,
Хто гароды добра садзіць —
Жыва, жыва за работу
Без аглядкі, хто што можа.
Усе роўны без рашчоту,
Усіх праца будзе згожа!

### ПРЫСЯГА НАД КРЫВАВЫМІ РАЗОРАМІ

Быў цёплы асеньні дзень... Нівы ціха адпачывалі пасьля летняе працы. Цёмны лес шаптаўся ў глыбокай задуме. Буслы тужліва ляцелі ў вырай.

Гэтага дня маркотны й згорблены пад цяжкай хмарай невясёлых дум ледзьве-ледзьве поўз стары Мацей у поле.

— Галава баліць, рук ня зьняць, — бурчэў ён, пацягваючыся. — Дзяцей дагадаваўся, а адпачыць някалі й не за кім.

Так ён сам сабе жаліўся.

Праўда, у Мацея былі тры сыны: аднаго ўзялі ў маскалі, другі паехаў да Пецярбургу шукаць хлеба, трэці пайшоў за парабка да двара, а бедны Мацей з жонкай і дзьвюма малодшымі дзяўчаткамі застаўся на сваёй гаспадарцы.

Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо ня тыя, — а рабі й рабі, працуй бясконца... Мардасовічу за лён, Бізуноўскаму за пашу, а там і за бульбу плужы й плужы штодзень на адработках, так што сваё, хоць і вузка і лында, але й то няхват часу ў пору засеяць. Вось і цяпер суседзі ўжо даўно пасеялі й пабаранілі, а Мацей толькі першы дзень выйшаў на сваё поле і то быў хворы.

Аднак, перамагаючы сябе, насыпаў жыта ў хвартух, напляваў у жменю, чарпнуў зярнят, і са словамі — «Радзі, Божа» — сыпануў зярнё на чорную глебу.

Зярняты замігацелі на ральлі, а Мацей стаяў з пасалавеўшымі вачыма й шаптаў:

— Не магу, нешта-ж галава баліць і сон морыць...

І, не ўкладаючыся ані пасьцілаючыся ён, як стаяў, так і лёг, так і заснуў.

Спаў, як пласт, упоперак загону з раскінутымі рукамі. Ліцо было бледна, вусны чорныя ад смагі, дыхаў ён часта і зь якімсь хрыпам. Здалёк выглядаў на чалавека, каторага вот-вот раскрыжавалі й прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае.

Мацей спаў і сьніў. Сьніў ён, што сабралася моц народу на яго ніве: былі там маладыя й старыя, і мужчыны, і кабеты, і дзеці — у розных вопратках і ўсе крычалі:

— Вузка! Цесна! Мала!

А Мацею здавалася, што і ён сам стаіць пасярод гэтага народу, і што ўсе чакаюць, што й ён сам, Мацей, скажа і што вось-вось к яго сэрцу падходзіць нейкі жаль, і што ён таксама пачне крычаць:

— Вузка! Цесна! Мала!

Аж, здаецца, выбягае сусед Астап, заціснуўшы кулакі, і крычыць яшчэ мацней ад Мацея:

— А скуль узяць?! Скуль дастаць!? Скажы! Скуль?!...

Тады захістаўся народ і зароў:

— Глядзеце, во — прасторы! Во — нівы, лясы, палі! Усё гэта ваша!

А Астап:

— Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, дворнае, — ні я, ні вы ня маем права! Не дадуць! Паб'юць!..

Вот далей здаецца Мацею, што з цьмы народу выходзяць его тры сыны: парабак дворны, салдат і работнік пецярбурскі, становяцца на калені, і прысягаюць громка, ясна, памалу:

— Мы дамо! Мы — сіла! Мы — права!

# Яшчэ аб блесках і ценях Грамады

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

на падтрымліваньня камуністымі Грамады.

І тут трэба сказаць ясна й адкрыта, што бальшавіком іхную мэту, каб праз Грамаду і пры помачы ейных кіраўнікаў узяць у свае рукі беларускі нацыянальна-вызвольны рух у Заходняй Беларусі на працягу ўсяго некалькіх год удалося дасягнуць поўнасьцю. Трэба адцеміць таксама, што такая бальшавіцкая палітыка была да некаторай меры сугучнай і палітыцы польскай, якой выгадней было нішчыць беларускі нацыянальны рух, маючы магчымасьць абвінаваціць яго ў камуністычнай агентуры, чымся калі-б гэты рух быў незалежны. Сяньня яшчэ нельга сказаць, ці ў той час ужо была ўзгодненая польская й савецкая палітыка ў дачыненьні да Беларусаў. Затое ў пазьнейшыя гады, калі замацавалася ўлада Пілсудзкага й калі палітычную спадчыну Грамады пераняў пасольскі клюб «Змаганьне», былі вельмі выразныя сымптомы гэтае ўзгодненасьці.

Мы згодныя поўнасьцяй з С. Гаркушам, што галоўныя кіраўнікі Грамады А. Луцкевіч, Б. Тарашкевіч, а таксама С. Рак-Міхайлоўскі і П. Мятла былі глыбокімі беларускімі патрыётамі й запраўды балелі за беларускую справу. Але не падлягае ніякаму сумлеву й тое, што, узяўшы на сябе цяжкае й адказнае заданьне, не патрапілі зь яго належна вывязацца. Зарызыкаваўшы выкарыстаць камунізм для беларускай нацыянальнай справы, змаглі яго выкарыстаць толькі ў мінімальнай меры, тады калі камуністыя іх выкарысталі ў меры максімальнай.

Першай і галоўнай памылкай грамадаўскіх кіраўнікоў было тое, што яны імкнуліся мець манаполь на ўвесь беларускі рух у Заходняй Беларусі і поўнасьцяў узалежнілі сябе ад камуністых, не пакідаючы для сябе ніякіх рэзэрвовых пазыцыяў ці магчымасьцяў адвароту. З антыкамуністычнымі беларускімі партыямі, як Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя або Беларускі Сялянскі Саюз, яны ня толькі ня мелі патрэбнага ў такіх выпадках сакрэтнага узгадненьня й каардынацыі дзейнасьці, але ўсімі сіламі зь імі змагаліся да такой ступені, што навет уваходзілі ў васабістую варожасьць зь лідэрамі гэтых антыкамуністычных партыяў.

Мы згодныя зь Я. Станкевічам, што «фактычным кіраўніком Грамады — і не на дабро яе — быў ейны скарбнік Радаслаў Астроўскі». Але ня трэба забывацца што ідэйнымі кіраўнікамі Грамады былі А. Луцкевіч і Б. Тарашкевіч, і за такіх іх уважалі ўсе ў Заходняй Беларусі. І ня было ніводнага ведамага выпадку, каб з прычыны бяспрынцыповасьці й апартунізму Астроўскага ўзьнікалі між апошнім з аднаго боку, а Луцкевічам і Тарашкевічам — з другога якіясь разыходжаньні ці непаразуменьні. Як шырака ўжо ведама, Астроўскі тады найбольш уславіўся арганізаваньнем камсамольскіх ячэяк у Віленскай Беларускай Гімназіі ды іншых беларускіх гімназіях, а таксама высыланьнем беларускае моладзі ў БССР. Аднак ані Луцкевіч, ані Тарашкевіч яму ня толькі ня перашкаджалі ў гэтай акцыі, але ёй патранавалі. Навет аўтар гэтых радкоў, які, будучы тады вучнем Віленскай Беларускай Гімназіі, належаў да тых нямногіх з вучнёўскай моладзі, што выказвала сваю варожасьць да камунізму, быў вясной 1926 году не Астроўскім, але Луцкевічам угавораны ехаць у Менск на ўнівэрсытэцкія студыі. І толькі ў вапошні мамэнт пашчасьціла адумацца і ўсьцерагчыся такім чынам трагічнага лёсу, які падзялілі даслоўна ўсе, што туды выехалі.

Масава высылаючы беларускую моладзь і наагул нацыянальны актыў у БССР, кіраўнікі Грамады паказалі сваю палітычную блізарукасьць. Іншая справа, калі высылаліся ў Менск людзі, якім у Заходняй Беларусі пагражаў арышт і доўгалетняя турма. Але высыланьне моладзі і ўсіх іншых, якім беспасярэдна нічога не пагражала, было выхалошчваньнем Заходняй Беларусі зь інтэлігенцыі й нязвычайна тут патрэбных нацыянальных працаўнікоў. Асабіста помню, калі ў 1924 ці 1925 годзе вярнуліся зь Менску П. Мятла і Ф. Ярэміч, куды яны езьдзілі як парлямэнтары польскага сойму, дык апошні нас паведаміў аб цікавай справе. Паймення, і праф. Ул. Ігнатоўскі, і пісьменьнік М. Гарэцкі накідаліся на кіраўнікоў Грамады, што яны беспатрэбна высылаюць людзей у БССР, дзе і так хапае нацыянальных працаўнікоў, затое ў Заходняй Беларусі іх мала.

Была адна асаблівасьць у кіраўнікоў і ладнай часткі актыву Грамады, якая была не на руку камуністым. Гэта іхны беларускі патрыятызм, які, пры ўсіх мінусах Грамады, надаваў ёй беларускі нацыянальны характар у большай меры й ступені, чымся гэта дапускала камуністычная партыя. У сувязі з гэтым у самой Грамадзе і навет у ейных нізох зарысоўваліся два розныя ідэялягічныя кірункі: адзін, колькасна мацнейшы, быў сьлепа пракамуністычны і прасавецкі, слабейшы колькасна, але моцны якасна, нацыянальны. І таму ліквідацыя польскім урадам у 1927 годзе Грамады і арышты ейных кіраўнікоў былі бальшавіком на руку. Гэта ім адкрывала магчымасьць расьцягнуць амаль поўнасьцю свой уплыў на насельніцтва Заходняй Беларусі, ужо значна меней лічучыся зь ягонымі нацыяльнымі патрэбамі, чымся пры Грамадзе. У гэтым і дапамог выдатна бальшавіком беларускі пасольскі клюб «Змаганьне», што ўважаў сябе за палітычнага спадкаемніка зьліквідаванае Грамады. Кіраўнікі «Змаганьня» І, Дварчанін, Гаўрылік, Грэцкі, Крынчык, Валынец былі людзьмі мала ідэйнымі і ў бальшыні свае карыерыстымі, якія сталіся толькі выканальнікамі загадаў камуністычнае партыі.

Высока дадатнім мамэнтам Грамады было тое, што яна разварушыла й зактывізавала сялянскія масы Заходняй Беларусі, пашырыла нацыянальную сьведамасьць і тым самым зрабіла яго больш адпорным на палянізацыйную акцыю. Не адказвае праўдзе цьверджаньне А. Лаўрыновіча, што Грамада не праводзіла ніякай нацыянальнай культурнай дзейнасьці. Праўда, сама Грамада, як арганізацыя палітычная, займалася бадай вылучна палітычнай дзейнасьцю. Але існаваўшая тады і ладны час пасьля ліквідацыі Грамады ейная культурная прыбудоўка — Таварыства Беларускае Школы палажыла вялікія заслугі ў разьвіцьці нацыянальнага культурнага жыцьця ў беларускай вёсцы. Ува ўсіх кутках Заходняе Беларусі існавалі гурткі ТБШ, якія часта ставілі беларускія спэктаклі, закладалі народныя дамы, бібліятэкі, чытальні, пашыралі беларускія кніжкі і складалі дэклярацыі на адчыненьне беларускіх школаў. Але беларуская нацыянальная сьведамасьць, разьвіваючыся тады галоўна ўшыркі, а не дастаткова пусьціўшы свае карэньні ўглыбкі, не магла стацца паважнай перашкодай у поўным апанаваньні камуністымі беларускага нацыянальнага жыцьця ў Заходняй Беларусі пасьля ліквідацыі Грамады й пераняцьця ейных традыцыяў няслаўнай памяці пасольскім клюбам «Змаганьне».

І тут даходзім да вялікай нацыянальнай трагэдыі, якая выводзіцца яшчэ з грамадаўскай дзейнасьці і якая балюча дала сябе адчуць ужо пасьля ліквідацыі Грамады. Калі ў 1929—30 гг. пачалася хваля ліквідацыі нацыянальнага руху ўва ўсіх нерасейскіх рэспубліках Савецкага Саюзу і масавае нішчэньне носьбітаў гэтага руху, дык яна, спасярод усіх нерасейскіх народаў, найбольшыя спусташэньні зрабіла на Беларусі. Параўнальна найменш пацярпелі ад гэтай крэмлёўскай акцыі каўкаскія рэспублікі Грузія й Армэнія. Сяньня ўжо сталася ясным, што выхаджэнцы з гэтых краінаў — сам «бацька народаў» Сталін, Мікаян, Бэрыя і іншыя важныя бальшавіцкія верхаводы зь іншаю меркаю адносіліся да гэтых краінаў, а з зусім іншаю да астальных рэспублік. Менш за Беларусь пацярпелі й музулманскія народы Савецкага Саюзу, бо за іх заступаўся ўвесь музулманскі сьвет, у дачыненьні да якога бальшавікі мелі і собскія пляны. Навет і на Ўкраіне параўнальна меншыя спусташэньні прынесьлі бальшавіцкія чысткі, чымся на Беларусі, бо бальшавікі былі змушаныя хоць трохі лічыцца з голасам пратэсту Ўкраінцаў у Заходняй Украіне, настроеных у вялізарнай бальшыні антыкамуністычна.

Затое аснаўная маса насельніцтва Заходняй Беларусі, якая праз Грамаду, а пазьней «Змаганьне» апынулася пад бесканкурэнцыйным уплывам камуністычнае партыі, ня толькі не падняла ніякага голасу пратэсту, але на сваіх нелегальных зборках, званых «масоўкамі», выносіла рэзалюцыі, у якіх асуджала беларускіх «ворагаў народу» і «буржуазных нацыяналістых», дамагаючыся найвайстрэйшага іх пакараньня. Гэткі быў палітычны білянс камуністычнай дзейнасьці, карэньні якой выходзілі ад Грамады.

Што-ж датычыцца галоўных кіраўнікоў Грамады, як Луцкевіч, Тарашкевіч і іншыя ідэйныя Беларусы, дык несправядліва й няправільна было-б іх сяньня садзіць на лаву падсудных ды выносіць ім прысуд у зрадзе і іншых праступках. Яны былі запраўднымі беларускімі патрыётамі і дзеілі бясспрэчна ў найлепшых інтэнцыях. Віна гэтых нашых нацыянал-камуністых, — а гэтак іх назваць можна — была ад іх незалежная. Яны непатрапілі ў сваім палітычным кругазоры падняцца да ўзроўні галоўнага і найбольш для нас заслужанага нацыянал-камуністага, якім быў праф. Ул. Ігнатоўскі, а асталіся на вышыні ўсяго толькі незадачлівага Цішкі Гартнага, што таксама ў сваім часе быў фізычна зьнішчаны бальшавікамі, але сяньня ў пэрыяд крэмлёўскай «адлігі» дачакаўся рэгабілітацыі прынамся як пісьменьнік. Затое Ігнатоўскі напэўна рэгабілітаваным ня будзе.

У дзейнасьці Луцкевіча, Тарашкевіча і ўсіх іншых ідэйных Беларусаў грамадаўцаў мы бачым не праступкі, і ня зраду, але грубыя палітычныя, памылкі, якія, аднак, ня дэскрымінуюць нас, як нацыі. Ад падобных памылак не заўсёды бываюць вольныя навет людзі, якім даручаны лёс цэлых народаў і навет цэлага сьвету. Прэзыдэнт Рузвэльт, Чэрчыль, Ідэн ды шмат іншых у дачыненьні да Савецкага Саюзу зрабілі куды большыя памылкі, якія сталіся вялікім няшчасьцем цэлага сьвету. Але ніхто не абвінавачвае іх у сьвядомым шкодніцтве. Гэта, аднак, не абазначае, што падобныя памылкі трэба пускаць у няпамяць. На памылках папярэднікаў вучацца іхныя наступнікі.

**Язэп Каранеўскі**

# БНР у савецкіх дакумантах

Выдавецтва Акадэміі Навук БССР у 1954 годзе выдала чацьверты том «дакумантаў і матарыялаў зь гісторыі ўстанаўленьня савецкае ўлады ў Беларусі і стварэньня БССР». Дакуманты гэтыя апрацаваныя Інстытутам Гісторыі АН БССР і Архіўнай Управай БССР.

У гэты зборнік, — гаворыцца ў «Прадмове» да кніжкі, — уведзены матарыялы й дакуманты аб тых гістарычных падзеях, якія адбываліся на тэрыторыі галоўным чынам усходняе часткі сучаснае БССР у пэрыяд ад сакавіка 1917 году да лютага 1919, ... у пэрыяд трыюмфальнага паходу савецкае ўлады».

Укладальнікі зборніка, — гаворыцца там-жа далей, — імкнуліся з найбольшай поўнасьцяй паказаць кіраўнічую ролю Камуністычнае партыі ў рыхтаваньні й правядзеньні сацыялістычнае рэвалюцыі, у ажыцьцяўленьні першых сацыялістычных пераўтварэньняў, у змаганьні з вонкавай і нутраной контррэвалюцыяй, у практычным ажыцьцяўленьні нацыянальнае палітыкі Камуністычнае партыі, яркай праявай якое было стварэньне БССР».

Зразумела, што пастаўленая мэта адлюстраваць «трыюмфальны паход савецкае ўлады» ды «паказаць кіраўнічую ролю Камуністычнае партыі» выключае ўсякую аб,ектыўнасьць у падборы матарыялу, якою павінны адзначацца асабліва зборнікі дакумантаў і матарыялаў. Але ці можна гаварыць наагул аб якой-небудзь аб'ектыўнасьці бальшавіцкіх выданьняў, дзе ўсё пастаўлена на службу партыйных камбінацыяў?

Чацьверты том зборніка дакумантаў зь гісторыі Беларусі мае ўсяго разам 638 дакумантаў, разьмешчаных на 480 бачынах друку фармату вялікае васьмёркі. У зборніку ёсьць шэраг дакумантаў (зразумела, вылучна нэгатыўнага характару), якія «паказваюць наважанае змаганьне бальшавікоў зь ... беларускімі буржуазнымі нацыяналістымі, зь «Беларускім Нацыянальным Камітэтам», «Беларускай Радай», «Беларускай Вайсковай Радай» і. г. д.

Усе дакуманты, у якіх з тае ці іншае прычыны гаворыцца аб дзейнасьці беларускіх адраджэнцаў, старым расейска-бальшавіцкім звычаем малююць гэтых апошніх, як самых лютых праступнікаў, розных зраднікаў, памешчыкаў і г. д. Ведаючы бальшавікоў, гэта хіба нікога ня зьдзівіць. Тым ня менш, дакуманты гэтыя маюць для нас не малую важнасьць.

З таго факту, што бальшавікі ў 1917 годзе ўсімі адмоўнымі эпітэтамі намагаліся здыскрэдытаваць Беларускі Нацыянальны Камітэт, Першы Ўсебеларускі Кангрэс а пазьней і Раду Беларускае Народнае Рэспублікі, якраз вынікае, наколькі небясьпечны быў для іх гэты рух, і як яны павінны былі выкарыстоўваць абсалютна ўсе спосабы прапагандовага змаганьня, каб пасьля ўжыць урэшце сілу зброі й безаглядную брутальнасьць.

Як ведама, на агульнанацыянальным зьезьдзе ў Менску 25-27 сакавіка 1917 году быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт. А ўжа 6/19 красавіка таго-ж году г. зв. «Менскі камітэт Усерасійскага сялянскага саюзу» (дробнабуржуазная арганізацыя» — паводля бальшавікоў) выдае рэзалюцыю аб сваім становішчы да беларускага агульнанацыянальнага зьезду і Беларускага Нацыянальнага Камітэту. У рэзалюцыі (дак. № 36) гаворыцца: «Беларускі Нацыянальны Камітэт ў ніякім выпадку ня можа быць прызнаны за выканальніка думак усяго беларускага народу і ня мае ніякага права гаварыць ад ягонага ймя ... Беларускі Нацыянальны Камітэт, ... будучы чыста нацыяналістычным, пагражае інтарэсам сялян і работнікаў намаганьнямі адарваць іх ад працоўных масаў усяе Расеі ... Менскі камітэт Усерасійскага сялянскага саюзу ... будзе весьці з гэтымі спробамі бязьлітаснае змаганьне ...»

Гэты дакумант, прыкладам, як і шэраг іншых, яшчэ раз даводзіць, што й тады ня было розьніцы (як няма яе й цяпер) між расейскімі бальшавікамі і расейскімі «дробнабуржуазнымі» партыямі ў дачыненьні да паняволеных цар-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

Мацей абліваецца потам, сэрца ў яго б'ецца...

І здаецца яму, што ўсё гэта спавіў туман: толькі разоры стаяць, поўныя крыві, а над імі вісяць тры скрыжаваныя далоні... І раздаецца ціхі, ясны голас:

— Мы — сіла! Мы — права!

### РОДНАЯ ВЁСКА

Вёска мая, чараўніца,
Што сэрца украла?
А мо Вяльля-балаўніца
Хваляй захлістала?
Мо дубровы захапілі
Біцьцё ў маім сэрцы?
Мо суседзі наварылі
Любчыку ў манерцы?
Бо куды я ні зьвярнуся,
Куды я ні гляну,
З табой, вёсачка, спаткнуся,
Цябе успамяну.
Морам еду — ўсё здаецца,
Што плыву Вяльлёю;
І ў Сібіры сэрца б'ецца,
Край мой, за табою...

### МОЙ САД

Стаіць мой сад пад белым цьветам;
Нарцыс — стыдлівых поўны крас,
Зьвісае бэз ў вакно букетам,
Тульпанаў куст расьцьвіў зараз.

Цьвіце ляўкой, ў пукох рабіна;
Вішнёва дрэва ў малаццэ;
А там парэчка, там маліна,
А там мой граб малы расьце.

Люблю мой сад, як расьцьвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цьвет галінку прыгінае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Люблю мой сад ў маёвым ранку, —
Як ён тане ў расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку,
І як зязюлька «ку-ку» шле.

Люблю мой сад пад белым цьветам,
Люблю, зялёным як стаіць;
Люблю, як грушы сьпеюць летам,
І як работай ён кіпіць.

Люблю мой сад у позну восень, —
Як плод зьвісае да зямлі,
Як голкі сыплюцца ад сосен,
Як залацяцца сьліў лісткі.

Люблю мой сад у крэпку зімку, —
Як у крышталах увесь дрыжыць,
Як дзяцел, сеўшы на галінку,
Зімову песьню загудзіць...

### ЛЕС

Высокі лес,
Шумі-скрыпі,
Расу хавай,
У раку ўлівай;
Грыбы расьці,
Ня дай цьвісьці
Жалобным кветкам.

Нясі палеткам
Свой доўгі сьцень,
Кладзі на пень
У гірлянды мох, —
Сьцялі пасьцель,
Каб кажны мог
Прылегчы спаць.

Высокі лес, ці чуеш гром,
Як ён злуе з усіх старон?
Як па дуплох дрыжаць зязюлі?
Як хмара з хмарай пайшла ў гулі?

Тарахнуў гром.
Маланка паліць
На вугаль чорны ўвесь гарэх.
А во і град па гольлі смаліць,
А во на злосьць, а во на сьмех
Пярун натрое дуб разьбіў.
А во пяць елак зачапіў
Круцісты віхар,
Гне іх удвое.
А во ў гняздо якраз абое
Упалі буслы;
Пішчаць іх дзеці.
А во няма куды падзеці
Кустоў маліны перад бурай.
А во і зайчык дрыжыць шкурай.
На кветках пчолак град пабіў.
Суніцы з купін дожджык змыў.
Усё хаваецца, дрыжыць.
Усенек лес цямненькім стаў.
Па гольлі шум;
У лесе штурм.
На землю сьцелецца навал.

Высокі лес, гусьценькі лес,
Іскрыцца бела шата.
Ў крышталах іва,
Бяроза сіва
Ў мароз прыбрата,
Чакае сьвята,
Зялёна елка —
Быццам з пудэлка,
Стаіць у дрымоце
Дубок пры плоце.
Кусток каліны
Абпёр галіны
На трухлай тоўстай борці.
Заціхлі песьні
У лістох чарэсьні.
У гнёздах пуста,
Дзе было густа
Птушак вясною.
Дзятва лясная
Ад нас зьлятае,
Зь цёплага краю
Аж з-за Дунаю.
Сойка зімуе,
Цецер такуе,
Дзяцел такоча,
Сава рагоча;
Верабей ля хаты,
Сьмяцюшок чубаты,
Ды сястра сінічка —
Нашы вечныя госьці...

(Далей будзе)

# Сутнасьць нацыянальнае палітыкі ў СССР

Як ведама, на XX зьезьдзе КПСС цы й пасьля яго шмат валкавалася пытаньне нацыянальнае годнасьці кажнага народу, а разам з гэтым і ягонае гісторыі. Аказалася, што крыўды якія рабіліся ім дасюль, паходзілі ад Сталіна, што спрычыніўся навет да русыфікацыйнае акцыі Савецкага Саюзу. Партыя «спасьцерагла» гэта і, асуджваючы няправільную дзейнасьць, павярнула да ленінскага прынцыпу, які быццамбы прадбачвае разумнае і праўдзівае разьвязаньне нацыянальнага пытаньня. Колькі гуманных інтэнцыяў! Прасьледзім іх, спасылаючыся на два вымоўныя акты савецкае рэчаіснасьці.

Падручнік «Гісторыя СССР» для сярэдніх школаў быў, як ведама, клясычным прыкладам ганебнага хвальшаваньня гісторыі нерасейскіх народаў. У ім галоўна разглядалася зыдэялізаваная гісторыя Расеі. Гісторыя іншых народаў або была выкінута зусім, або падавалася ў выглядзе створанай самым расейскім народам.

У сувязі з новай нацыянальнай палітыкай партыі, гэты падручнік меўся быць перагледжаны, аднак першыя яго дзьве часткі выйшлі ў выданьні 1956 году безь якіх-колечы зьменаў. Замест пераапрацаваньня падручнікаў, акадэмік Панкратава, партыйны трыбун у савецкай гістарычнай навуцы і галоўны рэдактар падручнікаў, выдала брашуру «Пытаньні выкладаньня гісторыі СССР у сьвятле пастановаў XX зьезду КПСС». Зьяўляючыся дадатковымі дырэктывамі для выкладчыкаў гісторыі, яны, аднак, ня прыносяць грунтоўных паправак да ўспомненых падручнікаў. Асноўная праблема іх — гэта праблема аднае расейскае нацыі. Наіўным было-б гаварыць пра аб'ектыўны падыход да гісторыі, выходзячы з таго, што аўтар стараецца прынізіць ролю маскоўскіх князёў і цароў і навет час ад часу ўспомніць пра зьверствы царскіх чыноўнікаў у калянізаваных краінах. Першага вымагае актуальнае асуджэньне культу асобы ў гісторыі, а другога — даўная савецкая тактыка. Панкратава ўсьцяж апраўдвае вонкавую палітыку Масквы, пераносячы толькі заслугі князёў і цароў у «зьбіраньні рускіх земляў» на народ. Аказваецца, што просты расейскі народ быў заўсёды тварцом свае гісторыі, бо ён ствараў эканамічную базу для існаваньня й узбагачэньня свае дзяржавы, сам і ў васобе вялікіх ваяводаў заваёўваў ёй славу. Шкоднасьць маскоўскае экспансіі для другіх народаў не бярэцца на ўвагу, хоць гэтыя народы таксама маглі быць тварцамі свае гісторыі. Расейскі народ, ня гледзячы на каляніяльную палітыку царскага самаўладзьдзя, вызваліў іншыя народы ад загрозы каляніялізму чужаземных дзяржаваў, больш адсталых эканамічна і культурна ад Расеі, садзейнічаў разьвіццю іхняе культуры і прывіццю расейскае прагрэсыўнае думкі. («Учительская газета», 22, IX. 1956 г.)

Мы бачым, такім чынам, ранейшую старую песьню аб раўнапраўнасьці народаў.

Найбольшы цынізм новае «ленінскае» нацыянальнае палітыкі партыі захоўваецца аднак у наступнай савецкай акцыі. З пачаткам гэтага году ў рэспубліканскіх настаўніцкіх газэтах праходзіла дыскусія ў справе лепшага выкладаньня расейскае мовы й літаратуры ў сярэдніх і вышэйшых школах. Гэтыя дыскусіі і «вольныя прапановы», прывялі да скліканьня міжрэспубліканскае канфэрэнцыі настаўнікаў, моваведаў і літаратураведаў, якая адбылася ў Ташкенцы ў канцы жніўня. Як выслаўляецца аб ёй савецкая прэса, гэтая канфэрэнцыя «зьявілася вялікім здарэньнем у культурным жыцьці нацыянальных рэспублік, выразнай дэманстрацыяй дружбы й супрацоўніцтва між народамі, **выяўленьнем ленінскай нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі» («Учительская газета»,** 12. IX. 1956 г.). Канфэрэнцыя прайшла пад лёзунгам вялікага практычнага і культурнага значаньня веданьня для нерасейскіх народаў расейскае мовы і літаратуры ды вызначыла цэлы шэраг канкрэтных прапановаў.

Для лепшага прывіцьця расейскае мовы пастаноўлена перабудаваць падручнікі і мэтодыку выкладаньня расейскае мовы, тарнуючы іх да моўных асаблівасьцяў кажнае нацыянальнае рэспублікі; рэарганізаваць моўныя факультэты; стварыць пры міністэрствах асьветы кажнае рэспублікі спэцыяльныя інспэктуры, а ў раёнах раённыя інспэктуры для кантраляваньня выкладаньня расейскае мовы і літаратуры ў вышэйшых і сярэдніх школах. Ставілася таксама пытаньне аднаўленьня пры міністэрствах нацыянальных рэспублік спэцыяльных аддзелаў расейскае мовы. Адначасна пры Акадэміі Навук СССР ствараецца спэцыяльны інстытут расейскае мовы і будзе выдавацца ад 1957 году адпаведны часапіс «Русская речь».

Камэнтараў гэтая акцыя не патрабуе, але мы бачым, як у папраўках Панкратавай да «Гісторыі СССР», так і ў «дабравольным» засваеньні нерасейскімі народамі расейскае мовы й літаратуры старую і разьлічаную палітыку Крэмля, якая мае толькі адну мэту — поўную русыфікацыю нерасейскіх народаў СССР.

**П. У.**

*Зь беларускага жыцьця*

# Прэсавая канфэрэнцыя ў Нью-Ёрку

Стараньнямі Прэзыдыюму Сэктару Рады БНР у ЗША, у Нью Ёрку была наладжаная прэсавая канфэрэнцыя з нагоды прыезду ў ЗША Старшыні Рады БНР, інж. М. Абрамчыка.

27 верасьня сёлета, а 7-й гадз. папаўдні, у гатэлі «Комодор» адбылося прыняцьце, на якім былі прысутныя прадстаўнікі амэрыканскае ды іншанацыянальнае прэсы, прадстаўнікі паняволеных народаў ды беларускае грамадзтва. З найвыдатнейшых гасьцей трэба адзначыць прысутнасьць: Я. Э. Прэзыдэнта Украінскае Народнае Рэспублікі д-ра С. Вытвіцкаго; Я. Э. Архіяпіскапа БАПЦ Васіля; Я. Э. Япіскапа Нью Ёрку Г. Францыса Ўількі; Шаноўнага д-ра Рамкрышна Шагу Модак, старшыні Фэдэрацыі Хрысьціянскіх Цэркваў усяе Індыі; прадстаўнікоў Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад бальшавізму сп. сп. Э. Кунігольма, Р. Дрэгера і С. Вільямса; Баранэсы С. дэ Шырмэр; д-ра Ліхтэна, дырэктара Антыдыфамацыйнае Лігі; д-ра Чыжа, дырэктара Рады для Амэрыканскага Адзінства ды іншыя.

Старшыня Сэктару Рады БНР сп. К. Мерляк прывітаў прысутных ды прадставіў Прэзыдэнта БНР інж. М. Абрамчыка, які зрабіў грунтоўны даклад аб сяньняшняй палітыцы Крэмля, зьвяртаючы ўвагу на памылковае тлумачэньне яе заходнімі палітыкамі. Далей сп. Прэзыдэнт прадставіў становішча Рады БНР і Парыскага Блёку адносна супрацьдзеяньня новай савецкай палітыцы ды вызваленьня паняволеных народаў спад бальшавізму. Закончваючы свой даклад, Прэзыдэнт БНР зьвярнуў увагу на тое, што заходнія палітыкі пачынаюць нас лепш разумець, што аблегчыць нашае змаганьне з расейска-камуністычным паняволеньнем.

Сп. Прэзыдэнт гаварыў пабеларуску, а ўсё вельмі добра й дакладна тлумачыў паангельску мгр. П. Манькоўскі.

Старшыня амэрыканскага Сэктару Рады БНР сп. К. Мерляк прачытаў прысланыя прывітаньні, між якімі была й тэлеграма ад беларускага прыяцеля кангрэсмэна Францыса Э. Дорна.

Доўга яшчэ прадаўжаліся гутаркі, пры якіх госьці мелі магчымасьць бліжэй пазнаёміцца ды навязаць цясьнейшыя асабістыя сувязі.

**К. Мельнік**

# У філіі БІНіМ-у ў Мюнхэне

У чацьвер 27 верасьня, пасьля летняга перапынку, у Мюнхэне пачала свой восеньскі сэзон працы філія Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Заходняй Нямеччыне. На парадак дня быў пастаўлены даклад беларускага навукоўца-эканамістага сп-ра С. Кабыша на тэму «Прамысловасьць і сельская гаспадарка БССР ў пляне 6-е пяцігодкі».

На даклад сабраліся, як усе сябры філіі БІНіМ-у, так і іншыя Беларусы, якіх цікавяць падзеі на бацькаўшчыне.

У сваім рэфэраце дакладчык шырока насьветліў прыродныя багацьці Беларусі, магчымасьці іхнага выкарыстаньня й паказаў, на аснове прызнаньняў саміхжа бальшавікоў, якое бязладзьдзе й глум спадарожнічаюць бальшавіцкай эканамічнай сыстэме на Беларусі.

Сп. Кабыш, на аснове савецкіх статыстык, паказаў таксама на запушчанасьць у шмат якіх галінах беларускае гаспадаркі ў вагульна савецкіх рамках. Гэтак, прыкладам, выпрацоўка электраэнэргіі ў БССР на душу насельніцтва ў тры разы меншая, чымся ў сярэднім на цэлым Савецкім Саюзе. Запушчанасьць беларускае эканомікі, нізкі ўзровень жыцьця беларускага народу й жахлівая бязвыхаднасьць з галіты— усё гэта ляжыць у натуры савецкае сыстэмы, заснаванае на прымусовай працы сялянства, на эксплёатацыі работніцтва ды на імпэрыялістычных амбіцыях бальшавіцкіх валадароў.

Заплянавана на шостую пяцігодку шмат, сказаў дакладчык, але вельмі сумлеўна, ці хоць значная частка гэтага будзе выкананая.

Пасьля заканчэньня гэтага цікавага й багата ўдакумантаванага рэфэрату адбылася дыскусія на закранутую тэму.

**Удзельнік**

*

### ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ АБРФ У ПАРЫЖЫ

30 верасьня 1956 г. у Парыжы адбылася канфэрэнцыя Саюзу Хрысьціянскіх Сындыкатаў Усходняе й Цэнтральнае Эўропы (Уцекачоў і Эмігрантаў) ФІТКРЭ. Галоўнай тэмай гэтае канфэрэнцыі было: цяперашняе палажэньне ў краінах за зялезнаю заслонаю, якое застаецца бяз зьмены пасьля апошніх падзеяў у Маскве. Саюз Хрысьціянскіх Сындыкатаў займае й надалей цьвёрдае становішча ў змаганьні за канчатковае вызваленьне ўсіх народаў спад расейска-бальшавіцкае няволі, за поўную сацыяльную справядлівасьць у ўсіх краінах.

Ад Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі удзел у гэтай канфэрэнцыі ўзяла дэлегацыя, ачольваная сп. В. Міцкевічам.

**М. Н.**

*Аб зьявах прыроды*

# Смерчы ў Беларусі

А 17-ай гадзіне 18-га жніўня сёлета жыхары вёскі Грабянец Чэрвеньскага раёну Менскай вобласьці назіразі дзіўную зьяву: у паветры ўтварыліся два слупы, што рухаліся насустрач сябе. У выніку руху гэтых слупоў утварыўся віхор, які выклікаў разбурэньні ў трох вёсках.

Апрача, гэтага ёсьць весткі аб разбуральных выніках гэткіх зьяваў прыроды ў Аршанскім, Крупскім, Клічаўскім і некаторых іншых раёнах БССР. Прыкметы гэтых зьявішчаў паказваюць, што ў некаторых раёнах БССР у другой палове жніўня прайшлі моцныя навальніцы, якія суправаджаліся разбуральнымі віхравымі зьявамі — сьмерчамі. У гэтым часе для ўтварэньня сьмерчаў былі спрыяльныя пагодныя ўмовы: сьцюдзёнае, хмарнае й дажджлівае надвор'е зьмянілася ў канцы лета значным пацяпленьнем.

Прычыны зараджэньня сьмерчаў яшчэ ня поўнасьцяй высьсьненыя, ёсьць яшчэ супярэчнасьці ў самой тэрміналёгіі гэтае зьявы. Найчасьцей пад тэрмінам «сьмерч» разумеюць моцныя паветраныя віхры зь вертыкальнай восяй (у выглядзе аднаго або некалькіх слупоў), якія ўтвараюцца пры апусканьні на паверхню зямлі або мора з навальнічнае хмары гарызантальнага мацярынскага віхру.

У сваім утварэньні сьмерчы найбольш цесна зьвязана з навальніцамі, з атмасфэрнай электрыкай. Сьмерчавыя зьявы найбольш распаўсюджаныя ў краінах з трапічным кліматам, хоць наглядаюцца часамі і ў сярэдняй паласе Эўропы й Азіі.

На тэрыторыі Беларусі, або ля самых яе межаў, на працягу апошніх 10 гадоў было зарэгістравана й апісана больш за 30 выпадкаў сьмерчаў. У запраўднасьці-ж за гэты час іх было значна больш. Лічаць, што ў сярэднім за кажнае лета ў Беларусі ўзьнікае 1-2 сьмерчы, а ў паасобныя гады іх бывае навет больш. Гэтак, прыкладам у 1951 г. было зарэгістравана 5 сьмерчаў. Як правіла, у Беларусі сьмерчы ўтвараюцца паблізу пераважна сьцюдзёных фронтаў у добра прагрэтым паветры зь вялікай колькасьцяй вільгаці.

Як моцная навальніца, гэтак і сьмерч зьяўляецца раптоўна. Ён мае выгляд лейкі, зьвязанай сваёй верхняй часткай з хмарай шэрага або чорнага колеру, а ніжняй вузкай часткай краінаецца зямлі або воднай паверхні. Сьмерчавая лейка круціцца зь вялізарнай хуткасьцяй (да 50-100 і больш мэтраў у сэкунду). Гэта ўтварае моцнае разрэджаньне паветра, з прычыны чаго з паверхні зямлі засасваюцца й падыймаюцца ў паветра цэлыя хмары пылу ды дробныя й буйныя прадметы, а над паверхняй вазёраў і рэкаў высока падымаюцца слупы вады. Папярочнік сьмерчавага слупа (у залежнасьці ад сілы сьмерчу) дасягае 200 і навет 400 мэтраў, а даўжыня праходжаньня — ад 1-2 да 80-100 кілямэтраў. Сьмерч часта суправаджаецца ўраганавым ветрам, дажджамі ліўнёвага характару, моцнымі грымотамі, градам, прычым градзіны бываюць вялічынёй з курынае яйко і навет буйнейшыя.

Сьмерч — шкоднае зьявішча прыроды і часта характарызуецца вялікім разбуральным дзеяньнем. Сьмерчы валяць платы, пашкоджваюць пасевы, разносяць стагі сена, зьнішчаюць сады, вырываюць з карэньнем і навет ломяць векавыя дрэвы, нярэдка пракладаюць у лясох дарогі, якія нагадваюць прасекі шырынёй аж да 250—300 мэтраў і даўжынёй 15—20 кілямэтраў. Сьмерчы зносяць дахі з будынкаў...

Прыкладам, у вёсцы Хутар Чэрвеньскага раёну моцна пацярпела шмат будынкаў; на сельскагаспадарчай дасьледнай станцыі «Вусьце» Аршанскага раёну ў канцы жніўня сьмерчам былі зьнесеныя дахі з будынкаў, разбураныя драўляныя памешканьні й павалена каменная сьцяна.

У мінулым бывалі выпадкі, калі сьмерч асушаў невялікія сажалкі, уцягваў у сябе ўсю ваду разам з рыбай і выплёскваў яе на сушу. Бывалі выпадкі людзкіх ахвяраў і гібелі жывёлы. Сіла паасобных сьмерчаў бывае такая, што падымае ў паветра хатнюю жывёлу, коней.

**(Паводля «Зьвязды» з 16 верасьня г.г.)**

# БНР у савецкіх дакумантах

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

скай Расеяй народаў і адны і другія, змагаючыся міжсобку, поўнасьцяй зыходзіліся (і зыходзяцца) на грунце далейшага паняволеньня ў новай імпэрыі нерасейскіх народаў.

У дакуманце 464 — «Паведамленьне Соўнаркому Заходняе вобласьці й фронту аб роспуску нацыяналістычнага беларускага зьезду, скліканага контррэвалюцыйнай Беларускай радай» — так гаворыцца аб дзейнасьці Вялікае Беларускае Рады: «Беларускія нацыянальныя арганізацыі («Рада» й «Грамада») ад часу Кастрычніцкае рэвалюцыі ўзяліся за стварэньне й замацаваньне чыста нацыяналістычнага руху ў асяродзьдзі беларускага мясцовага насельніцтва... Буржуазныя і ўгодніцкія сацыялістычныя партыі пастанавілі выкарыстаць дзеля сваіх інтарэсаў нацыянальныя рухі, уключаючы ў іхную праграму свае лёзунгі ды заманваючы працоўныя масы з шляху сацыяльна-эканамічнага клясавага змаганьня на шлях змаганьня за «агульнанародныя» нацыяналістычныя інтарэсы... На нашу думку, працоўныя масы ня могуць мець ніякіх «агульнанацыянальных» інтарэсаў з буржуазіяй».

«Мы пратэстуем супраць фармаваньня нацыянальных палкоў... Беларускае Рады» — чытаем мы ў дак. 477 у форме «Пастановы Слуцкага павятовага сялянскага зьезду». «Беларусь — непадзельная цэласьць вялікае рэвалюцыйнае Расеі» — заяўляе дакумант 388...

У чацьвертым томе дакумантаў «Зь гісторыі ўстанаўленьня савецкае ўлады ў Беларусі й стварэньня БССР» ёсьць каля 20 дакумантаў, у загалоўках якіх фігуруюць беларускія «нацыяналістычныя» арганізацыі, установы або дзяржаўныя ворганы. На гэтую тэму гаворыцца і ў шэрагу іншых дакумантаў кніжкі.

Усё гэта вельмі яскрава пярэчыць бязглуздым закідам некаторых «адзінанедзялімцаў» адносна фікцыйнасьці беларускага незалежніцкага руху ў часы рэвалюцыі і перад ёй. Бальшавікі не патрабавалі-б змагацца супраць фікцыі. Аб тагачаснай сіле беларускага незалежніцкага руху добра гаворыць гістэрычны тон тае невялічкае часткі дакумантаў, якія цэнзура адважылася ўвесьці ў зборнік, ды якія праз сам факт зьмяшчаньня іх у кнізе й цяпер павінны служыць тэй-жа мэце змаганьня зь беларускімі незалежніцкімі праявамі.

Зборнік, як цэласьць, яшчэ раз пацьвярджае і тую гістарычную праўду, што стварэньне бальшавікамі ў Смаленску 1 студзеня 1919 Беларускае ССР было нічым іншым, як вымушаным адказам на абвешчаную 25 сакавіка 1918 году незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

**А. Будзіч**

### АД ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны» паведамляе, што яно заканчвае выданьне асобнымі кніжкамі двух важных літаратурных твораў: этнаграфічна-гістарычнага нарысу ведамага беларускага пісьменьніка на эміграцыі Юркі Віцьбіча «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман» (частка першая) і повесьці памерлага ў Менску 13 жніўня сёлета вялікага беларускага паэты й пісьменьніка Якуба Коласа «У палескай глушы». Абедзьве кнігі будуць старанна выдадзеныя й належна афармленыя. Цана першай кнігі — 1 амэрыканскі даляр, а другой — 2 даляры або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце. Заказваць можна ўжо цяпер беспасярэдна ў Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» ў Мюнхэне або ў нашых Прадстаўніцтвах у паасобных краінах.**

## УВАГА!

### НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ПЛІТКІ

Беларускі Выдавецкі Аддзел пры Галоўнай Управе Злучанага Беларуска-Амэрыканскага Дапамаговага Камітэту выдаў другую сэрыю беларускіх патэфонных плітак, насьпяваных хорам ЗБ-АДК пад кіраўніцтвам сп-ра В. Селях-Качанскага і акампаніямэнце сп. сп. Д. Верасава ды П. Нядзведзкага ў студыі «Р. С. А. Віктор» у Нью Ёрку. У гэтую сэрыю ўвайшлі наступныя песьні:

1. **Мы выйдзем шчыльнымі радамі** (нацыянальны гімн) — муз. Тэраўскага;
2. **Падняты родны сьцяг дзяржавы** — апрацоўка — В. Селях-Качанскага;
3. **Хор сялянаў** (з опэры «Кастусь Каліноўскі») — муз. М. Равенскага;
4. **Песьня волі** — муз. В. Селях- Качанскага, словы М. Сяднёва;
5. **Поле, поле** — муз. Д. Верасава, словы М. Кавыля;
6. **Беларусь перадусім** — муз. Стэповіча;
7. **Ой, ня кукуй, зязюленька** — муз. Тэраўскага (солё: К. Яцэвіч);
8. **Ой, ты мароз** — муз. М. Равенскага (солё: К. Яцэвіч);
9. **Бульба** — апрацоўка В. Селях-Качанскага;
10. **Ня рыч, карованька** — муз. М. Равенскага;
11. **Сьняжкі белыя, пушыстыя** — апр. В. Селях-Качанскага.

Ветліва просім беларускае грамадзтва падтрымаць наш пачын праз набыцьцё новых плітак, і гэтым самым спрычыніцца да выданьня трэйцяе сэрыі ўвосень 1956 году.

Кошт аднае пліткі — 1 даляр плюс кошт перасылкі й апакаваньня. Камплет плітак — гэта найлепшы падарунак пры кажнай нагодзе. Выпісаць можна у: Mr. M. Sienko, 24 Herman St. South River, N. Y. U. S. A.

**Управа ЗБ-АДК**


## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St. Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**Mr. M. Palashuk,** 33 Chigford St. Fairfield-Melbourne, Vic.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčečka,** 19, Place Hoover, Louvain.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mrs. N. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont.

**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 112, rue d'Alger, Roubais (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**